# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

Цана нумэру 50 кап.

Выходзіць тройчы у тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Востра-Брамская, № 9.

Год I. | Пятніца, 9 мая 1919 г. | № 6.




*Вільня, 8 мая 1919 г.*

Мы стаміліся і змучаліся, шукаючы штодзеннага хлеба і баючыся, што цёмныя сілы, пэўныя ў адсутнасьці права і справядлівасьці, могуць рабіць нам гвалт і зьдзек.

Мы усе хочам спакою, парадку, магчымасьці працаваць у нармальных варунках.

І ў гэтым саўсім німа таго, што уселякія „камуністы“ завуць трусьлівым дрыжэньнем буржуяў.

Не, гэта арганічная патрэба творчай працы, бо ад першых дзён вайны гэтай працы не пачыналі рабіць. Усё ішло па шляху разбурэньня і нічагуткa ня было, што б нагадывала працу творчую.

І мы дзеля таго радуемся, калі прыходзе звод на цёмныя сілы.

Бо калі толькі ня будзе іх, ня будзе гэнай пошасьці нашых часоў, толькі тады працоўная грамада распачнець дапраўды творчую працу.

Але тут таксама хаваецца небасьпека.

Працоўная грамада мусіць змагацца с пошасьцю толькі сьціснутымі радамі, каб змогшы ворага, яна магла узяць ўладу ў свае рукі і павесьці працу добрай дарогай.

Ніхай ведаюць дэмагогі, што яны надта а надта памыляюцца, кажучы, быццым чырвоны тэррар будзе мець заступнікам па сабе тэррар чорны, што там, дзе панавала пошасьць цёмнае сілы, запануе па ёй рэакцыя.

О, не: гэта ня будзе нармальным канцом змаганьня.

У ва ўсіх дзяржавах ідзе вялізарнае перабудаваньне.

Як мае быць разьвязываюцца пытаньні аб ўзаемаадносінах працы і капітала.

Зьніштажаецца панскае рабаваньне працоўнай грамады.

Панская земля дастаецца земляробу-селяніну.

І прычына дзяржаўнага спакою і дабрабыту вось і хаваецца у справядлівым спаўненьню гэтых балючых патрэб.

Чым барджэй пачанецца работа у такім кірунку, тым лепей.

Бо толькі ў гэткім разе можам мы з пэўнасьцю і спакоем глядзець у будучыну.

Іначай мы яшчэ доўга будзем мучыцца, шукаючы штодзеннага хлеба і баючыся цёмнае сілы з левага і правага боку.

## Кутнік.

Здараецца відзець у нашай старонцы, —
Хоць дзе і чыгунка прайшла,—
Пры лазьні, у сушні, прабіта ваконца
З лучынак, з кавалачкаў шкла...
Бяз коміна печка, на прыпечку—пуста,
Чалесьнік шчарбаты увесь;
За засланкай, мажа, і ёсьць там капуста,
Галодны тэй стравы ня зьесьць..
Бо стол тут ня ведае жаднай акрасы,
Як ёсьць—ад Каляд да Каляд,
І лепшыя рэдка бываюць тут часы.
На чый асабліва пагляд..
Скарыначка чорнага хлеба закрыта,
Як шчасьце, грубым палатном,
С-пад паранкі сьвінкам пад лавай карыта
Даўно дагары ляжыць дном...
І прасьніца, толькі шнурочкам абвіта,
Прытулена вунь да сьцяны,
І кросны, хоць, праўда, стаяць яшчэ зьбіты,—
Суседкам наткалі яны..
На лаве раскідана бульба сырая,
З націнай са два буракі,
І як на цымбалах дзяцiных іграюць,
Шалешчуць кругом прусакі...
На зыбаўцы з белай бярозкі калыска —
Адзін успамінак хаця,—
У ёй-жа чядаўна апошняе блізка
Навекі заснула дзіця...
Адно засталося, пабегла за маткай
Трапаць у чужых чужы лён..
А тата дзе будзе?.. Схаваны лапаткай,
У полі крывавым сьпіць ён!..
Ня меў ён загончыка поля ніколі,
Дзе здарыцца кутнікам жыў, —
Праз тое, відаць, ён за Віслай на полі
Галоўку сваю і злажыў!..

**З. Вехаць.**

## ЗЬЕЗД ПОЛЬСКІХ ПАНСКІХ РАДАУ.

Надоячы у мейскай залі адбыўся сход прыехаўшых з Варшавы злучаных польскіх панскіх радаў: Менскай, Магілеўскай, Віленскай і другіх.

Прадстаўнікі гэтых рад апаведалі сваю бяздольную гісторыю, як яны былі у Варшаві, у Парыжу, як стараліся, каб зрабіць Польшчу ад мора да мора.

Усё гэта не абыякія паны, найбагацейшыя земляўласьнікі, і скардзіліся яны, што Варшаўскі Сацыялістычны Урад не прыняў іх, не прызнаючы, каб яны мелі мандаты ад усіх палякоў Беларусі.

Так сама не прыняў іх і цяперашні Сойм.

Праз увесь час гутаркі гэтых паноў ні слова мы ня чулі, каб на „панскіх“ землях жыў нейкі іншы народ, чым ся польскі.

Даведаліся мы толькі, што яны хочуць граніц Польшчы з 1772 году, што пісалі яны шмат мэморыялаў і наагул напрацаваліся...

З іх гутаркі мы дазналіся, што у Варшаву езьдзілі дзьве беларускія дэлегацыі: адна з Навагрудка, а другая з Адэссы. Дэлегацыя з Навагрудка выказалася за прылучэньня да Польшчы.

У склад гэтае дэлегацыі уваходзіла колькі паноў і панскіх прыяцеляў-селян. Кіравалі дэлегацыяй паны Янтсэн і Цьвірка Гадыцкі. Гэтая дэлегацыя панам спадабалася і яе хвалілі, хаця, як мы ведаем з Варшавы, прынята там была ня надта добра: мандаты былі не ад усяго беларускага народу!

Дэлегацыя з Адэссы саўсім не спадабалася.

Закід быў зроблены, што у склад яе увайшлі быўшыя чыноўнікі нашага краю.

Сумна было слухаць рэляцыю паноў. Для іх німа незалежнасьці Беларусі, Літвы ці Украіны, аб гэтых народах амаль не гаворыцца, здабыткі рэвалюцыі хоць бы і найменьшыя не прызнаюцца, аб аграрнай справе ні слова. Няўжо-ж усё гэта не жыцьцёвая патрэба і канешнасьць, а адны выдумкі злых соцыялістаў?

Час ідзе, тое што было пераменяецца і ніхто і нішто ня спыніць чалавечай думкі і поступу. Маральнае права ніколі не прападзе, а гвалтаўнікі яго ня змогуць і яно будзе сьвяткаваць сваю пабеду.

Але што-ж, паны думаюць па-панску і не разумеюць, што яны ужо толькі—morituri...

**Саука Барывой.**

## Гібель аднэй ідэі. *).

Ня дужа даўно давялося мне у Адэсі на пасяджэньні Супалкі Агульна-славянскай Фэдэрацыі пачуць шмат гарачых прамоў на карысьць гэнай фэдэрацыі.

Казалі там, што апошняя вайна бліжэй зьвяжыць славянскія народы, якія цяпер павінны зразумець, што калішнія звадкі паміж іх спрыялі немцам паступова апанаваць славянаў з эканамічнага і палітычнага боку.

Я слухаў гэтыя прамовы і думаў, што яны ніколі ня спраўдзяцца.

Асабліва-ж ня могуць яны спраўдзіцца у цяперашні час, калі паасобныя славянскія народы, карыстаючы толькі з правоў дужэйшага, нясуць гвалт на канцах штыхоў у землі родных ім славянскіх народаў.

Мая думка зрабілася пэўнаю, калі я пагаманіў з палітычнымі дзеячамі розных славянскіх дзяржаваў і ўзяў пад увагу славянскую прэсу.

Булгары — сэрбы, палякі — чэхі, украінцы — палякі і г. д робяць усё чыста, каб зьніштожыць ідэю аб Агульнаславянскай Фэдэрацыі.

І кожны з гэных народаў пэўны сам і уверае іншых, што ён — справядлівы, а што яго суседы гвалтуюць яго.

Расея раськінулась. На яе чаропках паўсталі да новага жыцьця народы, маючыя родную кроў, але, ня гледзячы на тое, агульнасьці інтарэсаў няма.

Кожны народ пільнуе толькі сваю карысьць.

Наша беларуская доля з гэтае прычыны асабліва характэрна.

Родныя нам народы, маскоўцы і палякі, то прызнаюць нас за асобны народ, то не, мяркуючы па таму, калі ім гэта карысна.

А каб узыйсьці на саўсім аднэчны шлях прызнаньня нашыіх правоў на гэткую ж дзяржаўнасьць, якую маюць яны — гэтага ня робяць: карысьней ім лічыць нас людзьмі бяз роду, бяз племя, якіх памяркоўна па рэлігійных адзнаках можна прылічаць ці да маскоўцаў ці да палякоў.

Значыцца ў саміх славянскіх народах па ранейшаму ёсьць той чарвяк, каторы тачыў іх калісьці і далей точыць цяпер.

Зьменшаючы і зьніштажаючы правы родных народаў, яны аслабляюць сваю сілу.

Можа быць, мяне захочуць абвінаваціць ў рэакцыйнасьці, ў тым, што я пашыраю думку аб імперыялістычным панслявізму.

Гэта будзе памылка.

Мая думка, што еднасьць паміж роднымі народамі, спрыяючы разьвіцьцю эканамічнага і палітычнага дабрабыта гэтых народаў, аблегчыць у будучыне заданьні інтэрнацыянальнага збліжэньня.

Бо як жа гаварыць аб гэным зблізэньню, калі навет сярод родных народаў ідзе змаганьне за вузкія сябелюбныя мэты, адзін давіць і гняцець другога, карыстаючы пераважнасьцю сілы.

Е. Б.

*) Друкуецца у дыскусійным парадку.

## З польскіх газэт.

Пасьля трохмесячнага перарыву зноў паявілася ў Вільні „Gazeta Ludowa". У гэтым нумэру між іншым надрукавана праграма „Польскай Народнай Сувязі ў Літве" (Polski Związek Ludowy na Litwie). З адносінамі яе да народаў, якія жывуць у нашым краі, хочам пазнаёміць нашых чытачоў.

„Згаджаючыся, што ў Літве *) жывуць чатыры главныя нацыі—палякі, ліцьвіны, беларусы і жыды, Польск. Нар. Сувязь будзе старацца абаспечыць свабоднае разьвіцьцё культурна-нацыянальнаму жыцьцю на аснове раўнапраўнасьці гэтых народаў, абаспечываючы правы іншых нацыянальных меньшасьцяў.

„Зьвярнуўшы ўвагу на тое, што па асобку ў розных частках Літвы ў большасьці яўляюцца палякі, ліцьвіны або беларусы, Поль. Нар. Сув. будзе старацца, каб былі разгранічаны адміністрацыйна гэтыя тры округі краю і устаноўлены прынцыпы, што ў палітычным жыцьці нацыянальная большасьць мае главнае значэньне, а нацыянальныя меньшасьці маюць свае абаспечаныя правы".

Аб палітычных мэтах між іншым гаворыцца гэтак:

„Польс. Нар. Сув. будзе дамагацца шырокай дэмократычнай конституцыі, якая аддасьць у рукі працоўнай грамадзе уселякую ўстаноўчую ўладу, назначэньне падаткаў і загад краем; за найбольш адпаведную форму

*) Здаецца, што пад словам „Літва" тут трэба разумець тэрыторыю б. Вялікага Князьства Літоўскага.

## ПАМЯТКА.

Беларусь складае вялікі край. Тэрыторыя яго займае 258.000 квадр. кілёмэтраў, куды ўваходзяць блізу цалкам: Віленшчына, Вітабшчына, Горадзеншчына, Меншчына, Магілеўшчына і з значнымі часткамі—Смаленшчына, Чарнігаўшчына, Ковеншчына, Сувальшчына, Курляндыя — з насяленьнем чыста беларускім у 12.000.000 ня лічучы чужапляменнага насяленьня, як жыды, татары, латышы, ліцьвіні, велікарусы староверы, украінцы і палякі,—каля 4.000.000. Зямля на якой жывуць беларусы, граніча з краем латышскім, Літвою і Польшчай на захадзе, на поўдні—з Украінай, на ўсходзе і поўначы—з Маскоўшчынай. Найдаўжэйшая граніца—гэта граніца з Украінай: яна складае трэцюю часьць усяе пагранічнай лініі; найкарацейшая—з Польшчай. Паўднёвая граніца Беларусі праходзіць на поўнач ад Бярэсьця, ўдоўж балот Прыпяці аж да Чарнігава; ад гэтага места простаю лініяю на поўнач аж да Ржэва і на поўнач ад Ржэва крывою лініяй да Рэжыцы і ломанаю лініяй праз Дзьвінск аж да Бярэсьця.

Беларусь ляжыць у такой мясцовасьці, каторая, як гадаюць вучоныя, зьяўляецца прарадзінай калі ня ўсіх славян, то прынамесі, бліжэйшых сваіх славянскіх суседзяў. Беларусы—адзінае славянскае племя, з выключэньнем хіба палякоў, каторае спакон веку жыве ў сваём краю, ні адкуль сюды ня прышло, але й уне вабрала ў сябе чужых гэтаму пляму элемэнтаў. Дзеля гэтага беларусы па гістарычным і этнаграфічнам асабліваcьцям у найбольш чыстым кшталце захавалі славянскі тып і ў гэтым сэнсе заслугоўць асабліва антропалёгічнага, этнаграфічнага і лінгвістычнага бадаўньня.

Беларусы вядуць свой род ад старажытных плямён *Крывічоў* і *Дрыгвічоў*, каторыя, паводле гістарычных дасьледзін, першыя палажылі пачатак дзяржаўнасьці сярод славянскіх плямён, што разсяліліся па ўсходняй Эўропе і першыя дасталі найменьне *рускіх*.

Часам наіўна сумлеваюцца, што Беларускай Дзяржавы ня было. Гэта праўда, — пад такім найменьнем дзяржавы ня было, як ня было да часу утварэння дзяржавы Італьянскай, Бэльгійскай, Украінскай і г. п. Але беларуская нацыянальнасьць складала моцную дзяржаву з плямён Літоўскай Русі, т. е. тае часткі Русі, каторая была злучана разам з літоўцамі пад назваю *Вялікага Княжства Літоўска-Рускага*, або Беларускага. І Беларусь, як гэта гледзім ніжэй, параўнаўча толькі нядаўна страціла характар свае дзяржаўнасьці, — моцнай і трывалай, каторая адмячаецца такімі рысамі разьвіцьця, якімі мы можам толькі гардзіцца і аднаўленьня якіх мы павінны дамагацца.

Пачаткам беларускай дзяржаўнасьці было княства Полацкае, аб князёх каторага скандынаўскія сагі (песьні) ўспамінаюць ужо ў VI-м веку. Адгэтуль далейшае дзяржаўнае будаўніцтва сярод усходніх славян пашыралася гэтакім шляхам: Полацак — Пскоў—Ноўгарад—Кіеў — Масква, па дарозе „изъ варягъ въ греки" і назад на заход (Масковія). Пусьціўшы расткі ў зазначаным кірунку, беларуская дзяржаўнасьць моцна трымалася Балтыцкага мора і прымушана была пасувацца па іншаму шляху, у бок Літвы і Курляндыі. Такім чынам, князі полацкага роду даводзіліся старэйшымі ўсім іншым князям у зазначаных палітычным гуртаваньнях, як іх раданачальнікі.

Праўдзівей за ўсё, што, як думаюць вучоныя, *Русью* ў пачатку зваўся гуртoк кіруючых людзей, мауляў. „белая костка", «лепшыя людзі», князі. Адгэтуль відать, што назва *Белая Русь* азначае Русь старэйшую, кіруючую, маючую права на пяршынство.

За гэтае дзяржаўнае *пяршынства* новапаўстаўшае ў IX веку Кіеўскае княжство вяло доўгалетныя і ўпорныя войны з Полацкім княжствам. І толькі дзякуючы таму, што Полацкія князі былі раданачальнікамі іншым князём, потым і Маскоўскія князі, умацаваўшыся, сталі прад'яўляць свае правы на беларускія землі, лічучы іх так сама сваімі „вотчынамі". Цікава адзначыць, што у сваіх дамаганьнях Маскоўскія князі ніколі ня сьпіраліся з тым, што каралі беларускія „літоўскага роду". Каб гэта было так, то ў ваенных спорках за „вотчыны" яны, напэўна, выкарысталі-б гэта адмаўляючы ім права на валаданьне беларускімі землямі, як чужынцом. Тым часам гэтага ня было, і споркі адбываліся ўвесь час як двух правамоцных прэтэндэнтаў на законную рэч. Сваё права яны грунтавалі на даўнейшых беларускіх летапісях, каторыя потым Маскоўскі цар,

